**МИНИ-ПОЛЕ — ЮНЫМ**



**2** Единая неделя футбола в Березе

**АБРОЎСКІ БУРШТЫН**



**3** Запасы цуда-каменя ацэнены ў 50—100 тон

**RES SACRAE**



**14** — унікальная выстава ў "Пружанскім палацыку"


Выдавец УП "Газета для вас"

Выдаецца са студзеня 1997 года на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — адзін раз на тыдзень

# ГАЗЕТА ДЛЯ ВАС

НАШ САЙТ У ІНТЭРНЭЦЕ
http://gdv.of.by

ІВАЦЭВІЧЫ-БЯРОЗА-ПРУЖАНЫ-ДРАГІЧЫН
(Брэсцкая вобласць)




№ 20 (751) 21 мая 2010 г., пятніца

Кошт свабодны (у розніцу)


# СЁМУХА

## — Дзень Святой Тройцы



Пяцідзесятніца, беларуская ікона, другая палова XVIII стагоддзя.

**Нядзеля — сёмая нядзеля пасля Вялікадня — пяцідзясяты дзень — Дзень святой Тройцы — Пяцідзясятніца. На дзясяты дзень пасля Ушэсця, калі ўсе вучні Хрыста сабраліся ў Іерусаліме ў хаце, якая знаходзілася на Сінайскай гары, на іх сышоў Святы Дух, а разам з ім і сіла прапаведаваць і сведчыць пра Ісуса Хрыста.**

Менавіта сыходжанне Святога Духа аб'яднала ўяўленне аб сусвеце: стварэнне Богам Айцом, выратаванне Богам Сынам і асвяшчэнне Богам Святым Духам праз заснаванне Царквы і сусветнае прапаведаванне веры. У гэты дзень тысячы вернікаў пад уплывам прароцтва прынялі святое хрышчэнне. Пяцідзясятніца стала днём нараджэння царквы.

На Тройцу, як і на працягу ўсяго тыдня, вернікі трымаюць у руках кветкі і зеляніну (галінкі клёну, бярозы, лісце аеру), што сімвалізуе спавяданне імі жыватворнай сілы Духа.

Гаспадары па стане зеляніны ў хаце маглі дакладна прадказаць, якім будзе лета і ўраджай гэтага года: калі на працягу тыдня галінкі высахнуць, гэта прадказвала, што лета будзе спякотнае, а ўраджай — небагаты; калі ж зеляніна доўга захоўвала свежы выгляд, гэта прадказвала добры ўраджай.

Травой, якую збіралі з падлогі царквы пасля набажэнства на Тройцу, "адпойвалі" невылечна хворых людзей; яе захоўваюць дома за абразамі — ад пажараў, сварак і г. д.

У народзе ведалі, што лепш за ўсё пачынаць будаўніцтва новай хаты трэба перад Тройцай, тады яна будзе стаяць вельмі доўга, а сям'я пражыве ў такой хаце "шчаслівы век".

# МИНИ-ПОЛЕ — ЮНЫМ

## Единая неделя футбола в Березе

**БЕРЕЗА. С 17 по 23 мая в нашей стране проходит единая неделя футбола. Березовчанам эта неделя запомнится еще и потому, что в городе появилось свое собственное мини-футбольное поле с искусственным покрытием. На церемонии торжественного открытия присутствовали Г. Н. Невыглас, председатель Ассоциации Белорусской федерации футбола, Д. Я. Шичко, заместитель министра спорта и туризма Беларуси, Н. Н. Хевук, начальник управления физической культуры, спорта и туризма Брестского облисполкома, а также представители местной исполнительной власти.**


Николай ДЕНИСИК
На церемонии торжественного открытия мини-футбольного поля.

От председателя Ассоциации Белорусской федерации футбола юные футболисты Березы получили комплект футбольной формы и двадцать профессиональных детских мячей. К слову, в Березе много делается для развития спорта и формирования здорового образа жизни. Например, в учреждении образования "Детская юношеская спортивная школа №1 г. Березы" работает шесть отделений: легкая и тяжелая атлетика, теннис, плавание, футбол, хоккей. В них занимается более 900 учащихся. За период существования спортивной школы было подготовлено пять мастеров международного класса, двадцать шесть мастеров спорта, один призер олимпийских игр, один чемпион мира, один победитель Всемирной универсиады. Более 450 раз учащиеся становились чемпионами и призерами чемпионатов, спартакиад и первенств РБ. В настоящее время в отделении футбола школы занимаются 287 человек, с которыми работают пять штатных тренеров и шесть тренеров-совместителей.

Благодаря ассоциации Белорусской федерации футбола и УЕФА в Березе появилась мини-футбольная площадка с искусственным покрытием размером 20/40. Она дает возможность проводить тренировки при любых погодных условиях, отрабатывать различные технические приемы с мячом. После перерезания красной ленты и торжественного открытия площадки право первого удара по мячу было предоставлено Г. Н. Невыгласу, а затем на площадку вышли юные футболисты, чтобы провести спортивные соревнования.

**Николай ДЕНИСИК.**

# Фестиваль юных талантов

**БЕРЕЗА. Традиционный, уже восьмой по счету, фестиваль "Вясновыя званочкі" прошел в городе. Городской Дом культуры в этот весенний вечер был полный — за юных участников пришли поболеть родители, друзья, знакомые, одноклассники. Всего в конкурсной программе приняли участие 26 исполнителей в разных возрастных категориях из разных населенных пунктов Березовского района.**

Дополняли песенные номера яркие танцы и оригинальные костюмы. Подарком для зрителей стал гостевой концерт воспитанников Центра внешкольной работы и Березовской школы искусств.

Победителям в различных возрастных категориях — Екатерине Козинец, Веронике Марчене, Юлии Дмитручине, Ксении Ополько и другим ребятам — были вручены грамоты и подарки.

Еще одно музыкальное мероприятие прошло в эти майские дни в Березовской школе искусств. Для всех любителей хорошей музыки прозвучал "Музыкальный коктейль", участие в котором приняли педагоги школы и трио из Бреста "Виктория".

**Николай ДЕНИСИК.**

# Крутите педали по правилам

**ИВАЦЕВИЧИ. С 14 по 24 мая на территории Ивацевичского района ГАИ особое внимание уделяет такой категории участников дорожного движения, как велосипедисты.**

В трех ДТП с участием велосипедистов в нашем районе в текущем году один человек погиб, а в другом случае травму получил четырехлетний ребенок, находившийся на велосипеде в качестве пассажира.

Несмотря на принимаемые меры административного воздействия, профилактические мероприятия, велосипедисты не отличаются дисциплиной на дороге.

Однако велосипедисты должны придерживаться Правил дорожного движения. Штраф за их нарушение составляет от одной до трех базовых величин (35-105 тысяч рублей).

Как сообщил нам старший госавтоинспектор Ивацевичской ГАИ Владимир Михаленко, всего на территории района в этом году зарегистрировано 16 ДТП, в которых один человек погиб и 17 получили травмы различной степени тяжести.

**Павел ДАЙЛИД.**

# Інваліда ўзяў на буксір

**ДРАГІЧЫН. У Драгічынскім раёне пацярпеў 81-гадовы мужчына, якога на інвалідной калясцы буксіраваў легкавы аўтамабіль.**



Як паведаміла начальнік аддзялення агітацыі і прапаганды абласной ДАІ Наталля Сахарчук, аварыя адбылася 17 мая ў 19.00 на вуліцы ў вёсцы Вулька Попінская. 68-гадовы вадзіцель аўтамабіля "Опель-Вектра" з дапамогай троса буксіраваў трохколавую інвалідную каляску, у якой знаходзіўся мясцовы жыхар — інвалід першай групы.

"Убачыўшы на вуліцы інваліда ў калясцы, вадзіцель "Опеля" прапанаваў адбуксіраваць яго, каб дапамагчы хутчэй дабрацца дадому, бо да вёскі набліжалася вялікая чорная хмара", — паведаміла Сахарчук.

Падчас рухання каляска перакулілася. Пажылы мужчына, які знаходзіўся ў ёй, атрымаў адкрытую чэрапна-мазгавую траўму, страсенне мазгоў і рваную рану галавы. Ён шпіталізаваны ў Драгічынскую цэнтральную раённую бальніцу.

**Ларыса ШЫГАНАВА.**

# Паваражыў

**ПРУЖАНЫ. Восьмага мая ў РАУС паскардзіўся жыхар г. п. Ружаны. З дома пенсіянера знікла вялікая сума грошай у беларускай і замежнай валютах.**

Грошы выкраў раней судзімы і нідзе не працуючы жыхар в. Малочкі, цыганскай нацыянальнасці. Узбуджана крымінальная справа, злодзей пакуль адшукваецца.

**Васіль СНАПКО.**

# Заводзік гнаў самагонку

**ПРУЖАНЫ. У жыхара вёскі Роўбіцк знойдзены падпольны міні-завод па вытворчасці самагону. Яго выявілі супрацоўнікі міліцыі вечарам 12 мая ў гаспадарчай пабудове на падворку 42-гадовага мужчыны, вадзіцеля аднаго з сельгаспрадпрыемстваў раёна.**

Як паведамілі ў Пружанскім РАУС, у гаспадарчай прыбудове знаходзіўся стацыянарны самагонны апарат, а таксама 1,5 тыс. літраў самагоннай брагі і 105 літраў самагону.

Усё гэта знішчана. У дачыненні да ўладальніка складзены адміністрацыйныя пратаколы. Яму пагражае штраф да 30 базавых велічыняў. Паводле слоў мужчыны, ён выробляў самагон для асабістых патрэб.

Як зазначылі ў раённым аддзеле ўнутраных спраў, у такіх аб'ёмах самагонная брага і самагон па месцы жыхарства жыхароў рэгіёна знойдзены ўпершыню. Раней такія падпольныя вытворчасці супрацоўнікі міліцыі выяўлялі толькі ў лясных масівах.

З пачатку гэтага года ў Брэсцкай вобласці ліквідавана сем падпольных вытворчасцяў, а таксама звыш 96 тон самагону і самагоннай брагі. За незаконны абарот самагону да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнута больш як 80 чалавек.

**Ларыса ШЫГАНАВА.**

# Падазраецца ў забойстве немаўляці

**БАРАНАВІЧЫ. Жыхарка Баранавіцкага раёна падазраецца ў забойстве нованароджанага сына. Як паведаміла старшы памочнік пракурора Брэсцкай вобласці Вольга Дзмітрук, у дачыненні да 35-гадовай жанчыны, якая жыве ў сельскім населеным пункце рэгіёну, 11 мая пракуратурай Баранавіцкага раёна распачата справа па арт. 140 Крымінальнага кодэкса (забойства маці нованароджанага дзіцяці).**

"28 красавіка гэтага года прыкладна ў шэсць гадзін раніцы жанчына нарадзіла дзіця ў хляве ў двары свайго дома, пасля чаго сышла адтуль. Цела дзіцяці ў гэты ж дзень праз прыкладна дзве гадзіны знайшоў яе сужыцель. Праведзеная судова-медыцынская экспертыза ўстанавіла, што смерць нованароджанага наступіла ў выніку асфіксіі", — дадала Дзмітрук.

Як мяркуецца, нарадзіўшы дзіця, жанчына накрыла яго пакрывалам, чым перакрыла доступ паветра.

Паводле слоў бацькі дзіцяці, яго грамадзянская жонка ўтойвала ад яго гэтую цяжарнасць. У жанчыны ўжо ёсць трое дзяцей.

**Ларыса ШЫГАНАВА.**

# У ДТЗ пацярпеў хлопчык

**У БАРАНАВІЧАХ у ДТЗ пацярпеў дзевяцігадовы хлопчык, паведаміў БелаПАН старшы інспектар аддзялення па агітацыі і прапагандзе ДАІ УУС Брэсцкага аблвыканкама Сяргей Юрашэвіч.**

Паводле яго слоў, аварыя адбылася вечарам 12 мая. 50-гадовы вадзіцель аўтамабіля "ВАЗ 21061" на вуліцы Фабрычнай учыніў наезд на вучня трэцяга класа адной са школ горада, які перабягаў праезную частку бліз пешаходнага пераходу.

Хлопчык атрымаў адкрытую пранікальную цяжкую чэрапна-мазгавую траўму, пералом аснавання чэрапа, закрыты пералом левай ключыцы, пашкоджанне звязак шыйнага аддзела пазваночніка. Дзіця змешчана ў рэанімацыйнае аддзяленне Баранавіцкай гарадской бальніцы.

Гэта 16-е з пачатку года ДТЗ у Брэсцкай вобласці з удзелам непаўналетніх. Усяго ў такіх аварыях атрымалі траўмы рознай ступені цяжкасці 16 дзяцей.

**Ларыса ШЫГАНАВА.**

# Валюту выробляла дома

**ПІНСК. Пракуратура Брэсцкай вобласці накіравала ў суд Пінскага раёна і Пінска крымінальную справу супрацоўніцы мясцовага філіяла аднаго з банкаў, якая абвінавачваецца ў крадзяжы з касы больш чым 61 млн. рублёў.**

Як паведаміла БелаПАН старшы памочнік пракурора Брэсцкай вобласці Вольга Дзмітрук, банкаўскі работнік абвінавачваецца ва ўчыненні злачынства па ч. 4 арт. 211 Крымінальнага кодэкса (прысваенне або растрата ў асабліва буйным памеры).

Паводле даных следства, з сярэдзіны лютага 2009 года па студзень 2010-га яна сістэматычна забірала з касы банка даручаныя ёй грашовыя сродкі (расійскія і беларускія рублі, долары і еўра), якія прысвойвала і траціла на свае патрэбы. Выкрадзеныя купюры замяняла на фальшывыя, вырабленыя дома на прынтары.

Расследаванне злачынства праведзена следчым упраўленнем папярэдняга расследавання УУС Брэсцкага аблвыканкама.

**Ларыса ШЫГАНАВА.**

# ЗАЧЕМ ДЕРЕВЬЯ КАЧАЮТСЯ?

## Почему "Газету для вас" не продают в магазинах Ивацевич

**"Уважаемая редакция "Газеты для вас"! Хочу поздравить Вас с тем, что, наконец, после четырехлетнего перерыва, газета внесена в областной подписной каталог, и ее можно выписать на II-ое полугодие 2010 года во всех отделениях связи Брестской области. Т. е. официально признано, что "Газета для вас" добросовестно и объективно выполняет свою основную функцию — информирование населения обо всем, что происходит в регионе и в стране.**

**В связи с этим у меня (да и у многих почитателей "Газеты для вас" в Ивацевичах) вызывает недоумение отсутствие газеты в продаже в магазинах города. Это что — ваше решение или продолжающаяся дискриминация газеты местными чиновниками? Ведь местная районка, "Івацэвіцкі веснік", постоянно лежит на кассах во многих магазинах города..**

**Петр САЕВЕЦ.**
**г. Ивацевичи".**

Уважаемый Петр! Спасибо Вам за письмо и поздравление. Мы действительно пережили период, если можно так сказать, застоя, вызванного проблемами в распространении газеты по подписке и продаже в розницу.

Но чтобы сказать сейчас, что дело закончилось Happy end, как в сказке, не можем. Потому как зашоренных сказочных героев в нашей действительности еще хватает. И некоторые из них придерживаются мнения воробьишки из одноименной сказки М. Горького, утверждавшего:

— А зачем деревья качаются? Пусть перестанут, тогда ветра не будет...

Несмотря на то, что ветер перемен давно дует в нашей республике, герои типа горьковского воробьишки считают за лучшее не замечать его и жить примитивными установками прошлого.

Мы неоднократно предлагали Ивацевичскому РайПО заключить с редакцией "Газеты для вас" договор на реализацию газеты в магазинах г. Ивацевичи. Последнее предложение-оферту послали председателю РайПО Т. Н. Воробей 23 февраля с. г. Но... ответ на наше предложение получили только после того, как написали жалобу в Ивацевичский райисполком о том, что РайПО грубо нарушает Указ президента РБ № 498 от 15 октября 2007 года "О дополнительных мерах по работе с обращениями граждан и юридических лиц", поскольку РайПО не посчитало нужным не только заключить с нами договор на реализацию газеты, но и ответить на наше предложение.

В райисполкоме же посчитали, что ответ на наше обращение Ивацевичским РайПО был дан 24 февраля с. г. и посему "нарушений законодательства об обращениях граждан и юридических лиц при рассмотрении обращения Ивацевичским РайПО не выявлено. Установить факт неотправления ответа на обращение, так и неполучение его редакцией Вашей газеты не представляется возможным".

Но какой же ответ "посылало" нам Ивацевичское РайПО? Приводим его текст:

***"На Ваше письменное обращение по вопросу заключения договора на реализацию газеты "Газета для вас" в торговых предприятиях г. Ивацевичи сообщаем, что в магазинах Ивацевичского РайПО производится реализация районной газеты "Івацэвіцкі веснік", так как она освещает все стороны жизнедеятельности нашей организации.***

***Необходимость в подписании договора о реализации газеты "Газета для вас" в настоящее время отсутствует.***

*Председатель правления*
*Т. Н. Воробей."*

Почувствуйте, уважаемые читатели, логику этого ответа. Мол, РайПО — наша вотчина, что хотим — то и продаем. Более того, торговая организация заявляет об отсутствии необходимости торговать! Представляете, если бы руководители, скажем, роддома заявили: роды у Мани принимать будем, а вот у Тани — нет. Нет необходимости — Мань хватает. Поэтому причем тут Ваша, Петр и другие жители города, необходимость, желание покупать "Газету для вас" в магазинах города? Кто вы такие? Как пел воробьишко Пудик в сказке Максима Горького:

— Эх, бескрылый человек,
У тебя две ножки,
Хоть и очень ты велик,
Едят тебя мошки!
А я маленький совсем,
Зато сам мошек ем.

А если говорить серьёзно, то, как видно из ответа, Т. Н. Воробей считает, что вопрос реализации "Газеты для вас" в магазинах города сугубо ее компетенция. Как говорится, зачем деревья качаются?..

Что касается утверждения Т. Н. Воробей, что "в магазинах Ивацевичского РайПО производится реализация районной газеты "Івацэвіцкі веснік", так как она освещает все стороны жизнедеятельности нашей организации", то мы с ним в корне не согласны. Ох, не все, далеко не все стороны деятельности РайПО освещает районка. Например, она ни разу не писала о том, что в магазинах РайПО часто продаются продукты с истекшим сроком годности, чем подвергают покупателей риску получения пищевого отравления. Что продавцам, по их утверждению, зачастую приходится самим "выкупать" эти уже непригодные к употреблению продукты. И что большая текучесть кадров в РайПО (продавцы постоянно требуются) вызвана этими и другими причинами деятельности торговой организации. А именно на такую тему неоднократно писала "Газета для вас", чем вызвала широкий общественный резонанс и большое неудовольствие в Ивацевичском РайПО. Конечно, права Т. Н. Воробей, разве может возникнуть у нее необходимость в реализации такой газеты?

**Редакция "Газеты для вас".**

# Аброўскі бурштын

**Бурштын.. Акамянелыя слёзы сосен. Залаціста-жоўты камень, аб цудадзейнай сіле якога жывуць у народзе паданні і легенды.**



Выпадкова знаходкі кавалачкаў бурштыну трапляліся па ўсёй тэрыторыі Беларусі, асабліва шмат іх было на Палессі. Гэта і падштурхнула нашых геолагаў да мэтанакіраваных пошукаў. І пошукі прынеслі плён. Калі раней вучоныя лічылі, што "жоўты камень" ёсць толькі на ўзбярэжжы Балтыйскага мора (у прыватнасці, у кар'еры і на марскім пляжы каля пасёлка Янтарны паблізу Калінінграда ляжыць 94 працэнты ўсіх разведаных сусветных запасаў бурштыну), то цяпер можна ўпэўнена сказаць, што адкрытыя радовішчы яго на Палессі дазваляюць перамяніць гэтую думку. І колерамі беларускі бурштын багацейшы. Тут, акрамя залаціста-жоўтага, ёсць і бялёсы і мядовы, і аранжавы, і чорны, і цёмнавішнёвы.

Мала хто ведае, што радовішча бурштыну выяўлена геолагамі каля вёскі Аброва Івацэвіцкага раёна. Слой, у якім ён залягае, не перавышае 2-10 метраў ад паверхні. Запасы яго ацэнены прыблізна ў 50-100 тон пры ўтрыманні яго да 30-40 г/куб. м пароды. Памеры асобных кавалкаў бурштыну дасягаюць 10-12 сантыметраў і больш, што дазволіць выкарыстоўваць яго як ювелірны матэрыял.

У час, калі стваралася штучнае возера паблізу вёскі Козікі на месцы торфаздабычы і будаўнікі намывалі пясчаную дамбу, зрэдку пачалі трапляцца косці выкапнёвых жывёл, кавалачкі бурштыну. Дарэчы, зуб мамanta, пазванкі паўночнага аленя, драбочкі бурштыну, якія прадстаўлены ў музеі Запалянскай СШ, — з Козіцкага радовішча.

Трэба спадзявацца, што наступіць жаданы момант, калі ўладныя структуры зацікавяцца адкрыццямі геолагаў, пачнуць здабываць бурштын. І тады нашы жанчыны будуць насіць пацеркі, кулоны, завушніцы, зробленыя з беларускага цуда-каменя.

**Аляксандр ЗАЙКА.**
**Івацэвіцкі раён.**

# Моладзь супраць аўтараскошы?

**Такога тыпу паведамленняў кожны год вельмі многа ў міліцэйскай статыстыцы. Нядаўна яна папоўнілася новымі фактамі.**

Невядомыя падлеткі "добра" пагулялі па горадзе ў ноч з 15 на 16 мая. У якасці сваіх праціўнікаў яны абралі аўтамабілі, якія начавалі на вуліцах райцэнтра на неахоўваемых стаянках. Хуліганы псавалі люстэркі, пакідалі драпіны на аўто, зрывалі значкі на вуліцах 8 Сакавіка, Леніна, Касцякова, Урбановіча, Кастрычніцкай. У выніку ў міліцыю паступілі паведамленні аб нанесеным уроне ад 22 аўтаўладальнікаў.

Адшукаць хуліганаў даволі складана, і праваахоўныя органы прымаюць усе намаганні. Аднак, як паказвае практыка, такія здарэнні могуць працягвацца і далей. А вадзіцелям варта задумацца пра захаванасць сваёй рухомай маёмасці.

**Раман САЎЧУК,**
**старшы інспектар прафілактыкі Пружанскага РАУС.**

# Ці здаралася вам набываць няякасныя прадукты?

## Адказваюць жыхары г. Івацэвічы



**ВОЛЬГА:** У нашых магазінах гэта здараецца даволі часта, асабліва з кісламалочнымі прадуктамі. Калі бачым няякасныя прадукты, то робім заўвагі, каб іх прыбралі.



**ВІКТОРЫЯ:** Так, здаралася такое. Найбольш трапляюць няякасныя малочныя прадукты. Таму я звычайна стараюся глядзець на іх тэрмін захоўвання.



**ЗОЯ АНТОНАЎНА:** Бывала і са мной гэта, неяк сялёдку дрэнную набыла. Але не заўсёды я іду сапсаваныя прадукты вяртаць. Бо неяк і не хочацца лішніх скандалаў.




**ПАВЕЛ:** А з кім такое не здаралася? Я неяк пельменямі ўсю хату засмурodзіў. Але найбольш страшна, калі дзіцячыя прадукты прадаюцца сапсаваныя. Марожанае, тэрмін годнасці якога скончыўся.



**АЛЕНА І ЗАХАР:** Здаралася, нават булачкі трапляліся няякасныя. Калі трапляюць пратэрмінаваныя прадукты, то мы, звычайна, ідзем іх вяртаць назад. Ад бяды — далей.

**У народ хадзіў Павел ДАЙЛІД (фота аўтара).**

# НОВАЕ ЖЫЦЦЁ асабістых падсобных гаспадарак

**У Беларусі неабходна распрацаваць праграму па падтрымцы і развіцці асабістых падсобных гаспадарак да 2015 года, зрабіўшы яе зразумелай і даступнай. Пра гэта заявіў Аляксандр Лукашэнка 18 мая на нарадзе па пытаннях развіцця асабістых падсобных гаспадарак грамадзян, паведаміла прэс-служба прэзідэнта.**



Пытанне развіцця асабістых падсобных гаспадарак "неаднаразова ўздымалася прэзідэнтам". Упершыню яно было разгледжана ў 2000 годзе. Развіццё сялянскіх (фермерскіх) і асабістых падсобных гаспадарак увайшло асобным кірункам у Дзяржаўную праграму адраджэння і развіцця вёскі на 2005—2010 гады.

Аднак, "нягледзячы на ўсе прынятыя меры, становішча спраў у гэтым сектары эканомікі стабільна пагаршалася". Гэта катэгорыя гаспадарак "іграе значную ролю ў забеспячэнні харчовай бяспекі краіны, занятасці насельніцтва, служыць дадатковай крыніцай даходаў сельскіх жыхароў". Выкарыстоўваючы крыху больш як 11% сельскагаспадарчых зямель, грамадзяне ў асабістых падсобных гаспадарках выпрацоўваюць каля 30% валавой прадукцыі сельскай гаспадаркі. У гэтых гаспадарках вырошчваюцца найбольш працаёмкія культуры — бульба (88% агульнага збору), агародніна (80%), плады і ягады (больш за 90%).

Колькасць асабістых падсобных гаспадарак грамадзян, якія пастаянна жывуць у сельскай мясцовасці, няўхільна памяншаецца: у параўнанні з 2000 годам іх стала менш на 175 тыс., або на 14%. Гэта тэндэнцыя характэрная для ўсіх абласцей.

На думку Лукашэнкі, такія гаспадаркі выконваюць і важную выхаваўчую функцыю: "Жыццё паказвае: там, дзе з дзяцінства прывучаюць да працы, догляду жывёлы і агародніцтва, там менш праблем з п'янствам і іншымі негатыўнымі з'явамі".

Лукашэнка лічыць, што нельга на 100% пагадзіцца з меркаваннем, што аб'ектыўнымі прычынамі спаду з'яўляюцца скарачэнне колькасці сельскіх жыхароў, старэнне сялян, нежаданне моладзі абзаводзіцца падсобнай гаспадаркай. "Справа не столькі ў аб'ектыўных прычынах, колькі ў абыякавым, дакладней, у нядбайным стаўленні ў першую чаргу з боку мясцовых улад да клопатаў людзей, якія вядуць падсобныя гаспадаркі, — сказаў Лукашэнка. — Практычна ўсё кінута на самацёк, маўляў, выжывуць — дык выжывуць, а не — дык не, за прыватнікаў, здаецца, мы не ў адказе. Так нікуды не варта".

Ён пагадзіўся з неабходнасцю распрацоўкі праграмы па падтрымцы і развіцці асабістых падсобных гаспадарак да 2015 года. Аднак, падкрэсліў Лукашэнка, "гэта павінна быць вельмі зразумелая, даступная і кароткая праграма, дзе будзе вызначана яшчэ раз, што такое асабістая падсобная гаспадарка, якія льготы, прывілеі і падтрымка, але ні ў якім разе не ўтрыманства". У дакуменце таксама будуць вызначаны адказныя за яе рэалізацыю: кіраўнікі гаспадаркі, сельсавета і райвыканкама.

# Адным сказам

● "Мы выступаем за значнае спрашчэнне ўсіх візавых працэдур на ўсіх узроўнях і для ўсіх катэгорый грамадзян", — заявіў прэс-сакратар Міністэрства замежных спраў Беларусі Андрэй Савіных.

● У адпаведнасці з пастановай Міністэрства юстыцыі №31 ад 14 мая ў Беларусі забаронена выкарыстоўваць найменні юрыдычных асоб са словамі ў найвышэйшай ступені параўнання, як, напрыклад, "лепшы", "першы", "адзіны", якія дазваляюць пазіцыянаваць гэтую юрыдычную асобу ў якасці лідэра пэўнай галіны на падставе яе наймення.

● Глабальны экалагічны фонд выдзеліць Беларусі 5 млн. долараў ЗША на рэалізацыю праекта па знішчэнні стойкіх арганічных забруджвальнікаў.

● Беларускія геолагі адкрылі прыкметы радовішча нафты ў паўднёвай частцы Гомельскай вобласці.

● Кіраўніцтва Савета Еўропы і сусветная праваабарончая арганізацыя "Міжнародная амністыя" асудзілі вынясенне ў Беларусі смяротных прысудаў у адносінах да дзвюх асобаў, якія былі прызнаныя вінаватымі ў здзяйсненні забойства ў Гродне.

● РГА "Перспектыва" 17 мая паўторна накіравала Аляксандру Лукашэнку ліст з прапановай скасаваць Міністэрства гандлю.

● Доля жанчын, якія кураць, у Беларусі за апошнія дзевяць гадоў павялічылася на 1,7% — з 19,7% у 2000 годзе да 21,4% у 2009 годзе.

● Дзесяць беларускіх акцёраў адабраны для ўдзелу ў здымках навагодняга парадыйнага шоу Першага тэлеканала "Вялікая розніца", паведаміў генеральны прадзюсер праекта "Вялікая розніца" Аляксандр Цакала.

● Пенсіянерка з Добрушскага раёна Гомельскай вобласці падазраецца ў тым, што трымала ў рабстве аднавяскоўку.

● У Брэсце спынена дзейнасць падпольнай лабараторыі па вырошчванні канапель, якую стварыў у кватэры непрацуючы 23-гадовы мясцовы жыхар, раней судзімы за захоўванне наркотыкаў.

● Да года папраўчых работ з вылічэннем 10% заробку прыгавораны судом Заводскага раёна Мінска хуліган, які памачыўся на чужую машыну.

● У Лунінецкім раёне затрыманы 29-гадовы мінчанін, які займаўся рэалізацыяй кантрафактнага насення агародніны пад маркай вядомай галандскай фірмы.

# Нафтавы іск Беларусі

**Міністэрства юстыцыі лічыць, што прызначэнне расіяніна Юрыя Мішальчанкі генеральным дарадчыкам у судовым разборы па нафтавым іску Беларусі да Расіі супярэчыць прынцыпу роўнасці бакоў. Аб гэтым гаворыцца ў заяве ведамства, апублікаванай на афіцыйным сайце Мінюста.**

Нагадаем, 25 сакавіка 2010 года ўрад Рэспублікі Беларусь звярнуўся ў Эканамічны суд СНД, які часова выконвае функцыі Суда ЕўрАзЭС, з іскавой заявай аб неправамернасці збірання расійскім бокам вывазных мытных пошлін на прадукты перапрацоўкі нафты, што пастаўляюцца з Расійскай Федэрацыі ў Рэспубліку Беларусь. У судовым працэсе ўрад Беларусі прадстаўляе Міністэрства юстыцыі.

"У заяве Мінюста гаворыцца, што рашэнне аб прызначэнні Мішальчанкі фармальна не супярэчыць рэгламенту суда, бо прызначэнне ў якасці генеральнага дарадчыка грамадзяніна аднаго з бакоў па справе не забараняецца. "Разам з тым Міністэрства юстыцыі ўсё ж звяртае ўвагу, што Мішальчанка, акрамя таго што з'яўляецца грамадзянінам аднаго з бакоў па справе, з'яўляецца прафесарам Санкт-Пецярбургскага дзяржаўнага універсітэта эканомікі і фінансаў, прафесарам Паўночна-Заходняй акадэміі дзяржаўнай службы пры прэзідэнце Расійскай Федэрацыі. Гэтыя навучальныя ўстановы маюць прамыя арганізацыйна-структурныя сувязі з вышэйшымі органамі кіравання Расіі, у тым ліку з урадам Расійскай Федэрацыі, які з'яўляецца адказчыкам па справе", — гаворыцца ў заяве.

На думку беларускага ведамства, прызначэнне Мішальчанкі "можа супярэчыць прынцыпам роўнасці бакоў, справядлівасці, супрацоўніцтва дзяржаў, вяршэнства міжнароднага права ў міждзяржаўных адносінах і добрасумленнага выканання міжнародных дагавораў".

"Выклікае абгрунтаваныя сумненні магчымасць бесстаронняга ажыццяўлення генеральным дарадчыкам Мішальчанкам сваіх функцый. Нягледзячы на тое, што заключэнне генеральнага дарадчыка не з'яўляецца ў адпаведнасці з рэгламентам суда абавязковым для суда, яно значнае для фарміравання пазіцыі суддзяў і можа паўплываць на абгрунтаванасць і законнасць канчатковага рашэння", — падкрэсліваецца ў заяве.

Міністэрства юстыцыі звярнулася з адпаведным хадайніцтвам у суд і спадзяецца, што "ён будзе дзейнічаць узважана ў мэтах вынясення абгрунтаванага і законнага рашэння".

# Удар по богатым домовладельцам

**С 1 июня физические и юридические лица, имеющие в собственности пустующие квартиры, а также особняки площадью более 200 кв. м, возможно, будут полностью возмещать услуги ЖКХ.**



Александр Лукашенко и правительство давно обещали взяться за владельцев пустующих квартир, а также богатых бизнесменов, имеющих во владении шикарные особняки. И вот, похоже, что взялись. Понуждать собственников к вовлечению пустующих квартир в экономический оборот правительство намерено экономическим путем, а заодно лишить богатых людей государственного субсидирования на услуги ЖКХ. При этом, судя по всему, Совмин решил некоторым образом убить сразу двух зайцев и удовлетворить, хоть и частично, требования МВФ по прекращению перекрестного субсидирования коммунальных услуг.

Напомним, что в Беларуси существует так называемое перекрестное субсидирование коммунальных услуг, в том числе электро- и теплоэнергии, отпускаемых населению. Согласно официальной информации, в настоящий момент белорусский бюджет оплачивает за граждан около 70 процентов этих расходов. В начале этого месяца первый вице-премьер Беларуси Владимир Семашко на заседании Национального совета по трудовым и социальным вопросам пообещал, что в течение трех лет страна плавно уйдет от этого перекрестного субсидирования. И вот обещания начали исполняться. Первыми под "полное возмещение" попала самая зажиточная часть белорусских граждан.

Постановлением Совета министров в целях совершенствования порядка расчетов за жилищно-коммунальные услуги внесены изменения и дополнение в п.1 постановления Совета министров Беларуси от 25.08.1999 №1332 "Об упорядочении расчетов населения за пользование жилыми помещениями и коммунальными услугами".

Согласно документу, с 1 июня при наличии у "гражданина в собственности и (или) пользовании одного или нескольких жилых помещений и отсутствии в них (в одном из них) зарегистрированных по месту жительства нанимателя, собственника, члена организации застройщиков и (или) членов их семей плата за техническое обслуживание и центральное отопление этих помещений осуществляется по установленным законодательством Республики Беларусь тарифу на услуги по техническому обслуживанию жилых домов и тарифу на тепловую энергию для нужд отопления и горячего водоснабжения, обеспечивающим полное возмещение экономически обоснованных затрат на оказание таких услуг".

Аналогичная судьба ждет и юридических лиц, у которых на балансе числятся пустующие квартиры. Указанные юридические лица также будут обязаны вносить плату за техническое обслуживание и центральное отопление в вышеуказанном размере.

Третья категория граждан, на которых правительство с начала лета повесило полное возмещение коммунальных услуг, — владельцы "усадебных жилых домов повышенной комфортности". Плата за коммунальные услуги с граждан, проживающих в таких домах, будет также взиматься "по установленным законодательством Республики Беларусь тарифам, обеспечивающим полное возмещение экономически обоснованных затрат на оказание этих услуг, на основании перечней таких домов, утвержденных городскими, районными исполнительными комитетами, администрациями районов в городах".

Паласа падрыхтавана па матэрыялах БелаПАН, tut.by.

